РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ» на 8-мі старонках

Free Hlybokaye

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*

*Янка Купала.*

Жыве Беларусь!

Wolne Glebokie

Выдаецца са снежня 1994 года *№15-16 (47-48), ліпень, 2000 года *Кошт па дамове

## АНОНС

**У гэтым нумары газеты**

**Вы прачытаеце:**

**-- матэрыял пра Фэст сярэднявечнай культуры «Навагрудак`2000», які адбыўся 24 -- 25 чэрвеня г.г.;**

**-- дарожныя нататкі журналіста Уладзіміра Шыка, які нядаўна вярнуўся з камандыроўкі ў суседнюю Літву;**

**-- замалёўкі пра наша жыццё, складанае і без песень;**

**-- навіны з рэгіёна.**

***

**У наступным нумары**

**Вашай увазе будзе прадстаўлены цікавы матэрыял «Паглядзелі рай, пабачылі і пекла», у якім мы раскажам пра нашу зямлячку Соф`ю Кухта, якая зараз жыве ў г. Утрэхт (Галандыя)**

## КОРАТКА

Ф 7 ліпеня каля 11 гадзін раніцы ў раёне Нацыянальнага аэрапорта «Мінск» у Беларусі прапаў тэлеаператар Дзмітрый Завадскі, які супрацоўнічаў з вядучым ГРТ Паўлам Шараметам. Па словах П. Шарамета, ён упэўнены ў адной версіі «знікненне яго калегі звязана з дзейнасцю беларускіх спецслужбаў».
(«Витебский курьер», №52 (670) за 14 ліпеня 2000 г.)

Ф На падставе рэкамендацый гандлёвага прадстаўніка ЗША Ш.Баршэўскі прэзідэнт Клінтан падпісаў заяву аб адмене льгот па Агульнай сістэме прэферэнцый у адносінах да Беларусі. Гэтая сістэма давала магчымасць некаторым краінам бяспошлінна ўвозіць у ЗША некаторую прадукцыю пры ўмовах, што гэтыя краіны прыкладаюць намаганні па забеспячэнню міжнародна прызнаных правоў працоўных.

Ф У Грузіі праходзяць урачыстасці, прысвечаныя 1700-годдзю аб`яўлення праваслаўя дзяржаўнай рэлігіяй Грузіі.

Ф Жыхар усходняга індыйскага штата Ассам, рабочы чайнай плантацыі Дашарат Бараік, перарэзаў горла свайму 6-месячнаму сыну і выпіў яго кроў. Бацька-вампір арыштаваны. Паліцыя лічыць, што гэта злачынства здзейснена на ніве рэлігійных вераванняў.

Ф З 8 ліпеня цэны на алкагольную прадукцыю зноў выраслі ў сярэднім на 5%.

Ф Пытанне аб удзеле замежных прадстаўнікоў на выбарах у Беларусі пакуль застаецца адкрытым. На сесіі парламенцкай асамблеі АБСЕ, якая праходзіла з 6 па 10 чэрвеня ў Бухарэсце, толькі расійская і ўзбекская дэлегацыі выказаліся за прысутнасць у Беларусь сваіх назіральнікаў. Магчыма, пытанне будзе вырашана восенню на пасяджэнні бюро Асамблеі.

Ф Прэзідэнт Беларусі рэзка адрэагаваў на рашэнне Кангрэса ЗША аб адмене шэрагу гандлёвых прэферэнцый для Беларусі...
«Я знайду адэкватны адказ на гэтыя дзеянні, у даўгу не застануся,-- сказаў ён.

Ф У Карабоўскім сельсавеце Глыбоцкага раёна створана нефармальная экалагічна-краязнаўчая група **«Сэрвач».**
Яе ўдзельнікі вельмі заклапочаны экалагічным становішчам нашых вадаёмаў басейна Заходняй Дзвіны і Нёмана, якія знаходзяцца на тэрыторыі Глыбоцкага і Докшыцкага раёнаў.
Як адзначыў кіраўнік «Сэрвачы» Зміцер Курцэвіч, «факты неахайнага абыходжання з нашай прыродай цяпер будуць вядомы не толькі беларускай, але і міжнароднай грамадскасці».




## Ёсць вішні - няма цукру

У пачатку ліпеня з паліц глыбоцкіх магазінаў знік цукар. Адны кажуць, што прычына ў хуткім падараажанні, другія, што яго вывозяць на Украіну, бо там цэны на салодкую і такую патрэбную менавіта ў гэты час прадукцыю, павысіліся. Як бы там не было, у глыбачан узнікла праблема -- ягадны перыяд без цукру.

*П. Сідарчук*

## Першы выпуск у школе званароў

Школа званароў адзіная на Беларусі. Восем чалавек, сярод якіх дзве жанчыны, атрымалі пасведчанне аб яе заканчэнні. Сярод выпускнікоў не толькі беларусы. Скончыла школу і манахіня Анфіса з Тульскага манастыра.

Чатыры месяцы гісторыкі, музыканты, мастацтвазнаўцы, этнографы, свяшчэннікі чыталі лекцыі па практыцы звонавай справы.

А ў храме ў гонар іконы Божай Маці «Усіх тужлівых радасць» ужо ідзе другі набор у школу. Заняткі пачнуцца ў верасні.

**А. Удальцова**

## Каго лічаць бедным у Амерыцы?

**Крытэрый вымярэння беднасці быў распрацаваны ЗША яшчэ ў 60-я гады. Згодна яго, бедный лічыцца сям`я з чатырох чалавек з агульным прыбыткам не вышэй 16,6 тысяч долараў у год, а гэта каля 345 долараў на чалавека ў месяц.**

Але ў апошнія гады ў краіне шмат змен, таму вырашана ўстанавіць, што беднай будзе лічыцца сям`я, якая атрымоўвае не менш 20 тысяч долараў у год -- каля 405 долараў на чалавека ў месяц.

*Л. Аноп*

## Беларусь сябруе з Іракам

Па словах Лонданскай газеты «Сандэй Тэлеграф» за 16 красавіка, беларуская вайсковая кампанія БелТэхэкспарт падпісала дамову на суму 90 млн. долараў па аднаўленні іракскіх сістэм СПА, перабудове ВУС і перападрыхтоўцы СПА, якія б маглі ў далейшым паспяхова знішчаць амерыканскія самалёты.

*Л. Сапега*

## Затопяць ці не?

Бліжэйшым часам у чатырнаццаці кіламетрах вышэй Полацка, на рацэ Заходняя Дзвіна, мяркуецца пабудаваць гідраэлектрастанцыю. На месцы ўзвядзення ГЭС ужо распачаліся падрыхтоўчыя работы, але навакольныя жыхары і дагэтуль не ведаюць што станецца з іхнімі хатамі.

*Л. Карась*

## А ў нас -- семінар

**9 ліпеня ў Глыбокім адбыўся семінар, на якім абмяркоўваліся пытанні ўдзелу ці не ўдзелу дэмакратычных партый і няўрадавых арганізацый у маючых адбыцца ўвосень парламенцкіх выбарах на Беларусі, а таксама аб удзеле партый і грамадскіх арганізацый у назіранні за ходам выбарчай кампаніі.**

Як вядома, IV Кангрэс дэмакратычных сіл, які адбыўся ў Мінску 2 ліпеня гг., не падтрымаў ідэю ўдзелу дэмакратычных партый і грамадскіх арганізацый у гэтых выбарах пакуль не будуць выкананы пэўныя патрабаванні апазіцыі.

У гэтым семінары, які праходзіў пад эгідай АБСЕ, бралі ўдзел 24 чалавекі з Глыбоцкага, Шаркоўшчынскага, Пастаўскага і Браслаўскага раёнаў.

## У Глыбокім створана каардынацыйная Рада дэмакратычных сіл

8 ліпеня ў Глыбокім адбыўся сход прадстаўнікоў дэмакратычных партый і дэмакратычных няўрадавых арганізацый Глыбоцкага, Браслаўскага, Пастаўскага і Шаркоўшчынскага раёнаў.

На сходзе было вырашана стварыць рэгіянальную каардынацыйную Раду дэмакратычных сіл паўночна-заходняй часткі Віцебшчыны.

Старшынёй рэгіянальнай каардынацыйнай Рады абраны сябра БСДП (НГ) Міхась Гіль (Паставы), яго намеснікамі -- журналіст Уладзімір Скрабатун і сябра ТБМ Ада Райчонак (Шаркоўшчынскі раён).

У гэты ж дзень адбыўся і сход дэмакратычных сіл Глыбоцкага раёна. Створана раённая каардынацыйная Рада дэмакратычных сіл, яе старшынёй абраны Зміцер Лупач.

*Л.Шпак*



Цікава адпачываюць на летніх канікулах вучні СШ№3 г. Глыбокае. Іх класны кіраўнік, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Таццяна Фёдараўна Барткевіч, аптымістка і краязнаўца, хоча каб дзеці сталі сапраўднымі патрыётамі Бацькаўшчыны, а таму адпачынак удала перамяжоўвае з краязнаўчымі вандроўкамі. А пасля доўгіх дарог так смачна пасярбаць рыбнай юшкі!

**Фота Т.Барткевіч**

# Рэгіянальны экспрэс

## Былое і думы

**Калі 77-гадовы Сцяпан Антонавіч Крамок, жыхар вёскі Цвеціна Мёрскага раёна, расказвае землякам пра свае дзяцінства, мужыкі нервова «смаляць» самакруткі.**

Хлапчуком Сцяпан працаваў падпаскам у пана Аранскага і зарабляў за сезон 100 злотых. Прыбытак сям'і з 9 душ, якая жыла пры панскай сядзібе складаў тады 900 злотых, за якія можна было купіць 600 пудоў хлеба і шмат чаго іншага.Да таго ж пан даваў за працу 200 пудоў жыта, выдзяляў сям'і карову, зямлю, не прымушаў працаваць па выхадных днях і рэлігійных святах. З прыходам саветаў усё змянілася ў горшы бок. Заробкі людзей, сілком загнаных у калгас, зменшыліся разоў у дзесяць. Сяляне ў сезон часта працуюць без выхадных, а ў апошні час, як рабы, зусім бясплатна. І калі ў тэлесерыялах негры-рабы пасля працоўнага дня збіраюцца ля вогнішча, спяваюць, танцуюць, то нашы сяляне-беларусы ледзь дацягнуцца да ложка. У калгасах Мёршчыны да цяперашняга часу цягнуць лямку звыш 4 тысяч чалавек. Іх заробак у 1 квартале гэтага года крыху перавысіў 14 тысяч рублёў. Пажыць па-людску на сяле ў нас не атрымаецца нават пасля выхаду на пенсію.

## Перадвыбарны «цырк»

Выбары яшчэ ледзь-ледзь пагражадоюцца на палітычным «гарызонце», а многія дэпутаты дзейнічаючай Палаты прадстаўнікоў ужо развілі нябачную дагэтуль актыўнасць. Здаецца, усур'ёз і надоўга «застолбил» за сабой Глыбоцкі раён для паўторнага перавыбрання мінчанін Васіль Хрол. Спачатку ён разаслаў перадсвяточныя сакавіцкія календары віншаванні, выпушчаныя невядома за чые грошы, пазней ён заняўся мецэнатствам у раёне. Дапамог у арганізацыі паездкі ў сталіцу вучняў Чарневіцкай СШ, уручыў новую спартыўную форму членам мясцовай каманды. За ўсё гэта людзі ўдзячны В. Хролу, але дзе ён быў за год-другі да парламенцкіх выбараў?

## Бацькі і дзеці

Педагогі Бярэзінскай СШ Докшыцкага раёна хоць на час летніх канікулаў пазбавіліся ад праблем, якія ім падкідвалі некаторыя «цяжкія» вучні. Адна васьмікласніца, напрыклад, тыднямі не бывала ў школе, з'язджала са сваёй вёскі Узлессе і шукала палюбоўнікаў. Ажно 39 дзён напрацягу вучэбнага года правяла яна ў вясёлых кампаніях у райцэнтры. Падобныя паводзіны дзяўчынка пераняла ад маці, якая п'е, нідзе не працуе, вядзе вольны вобраз жыцця. Амаль два месяцы не вучыўся і Саша П. У яго здольнасці пачынаючага злодзея. Спытаць з бацькоў за паводзіны сына нельга, бо яны алкаголікі. Таму з Сашы на час канікул узялі распіску, што ён не будзе рабіць нічога дрэннага. Ці зможа хлопчык самакантраляваць сябе -- невядома. Крытычнае становішча і яшчэ ў 33 сем'ях раёна, у якіх дзеці прадстаўлены самі сабе. Сітуацыя па вобласці таксама выклікае трывогу. Так, за мінулы год на ліку 1202 падлеткаў было 1400 здзейсненых злачынстваў, некаторыя дзеці паспелі «засвяціцца» па некалькі разоў.

*В. Сазонаў*

## Паэт вярнуўся на радзіму

Незабыўным момантам міжнароднага фестывалю музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік», які прайшоў у чэрвені ў Паставах, стала літаратурнае свята, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння вядомага земляка, класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Дубоўкі. Імя паэта носіць зараз дзіцячая бібліятэка Пастаў. У прысутнасці гасцей, пісьменнікаў і артыстаў, супрацоўнікам бібліятэкі быў уручаны спецыяльны знак. На свяце гучалі песні на словы У. Дубоўкі, адбылося ўшанаванне пераможцаў літаратурнага конкурсу «Дэбют». У гонар знакамітага земляка-паэта ў Пастаўскім раёне створаны дзве музейныя кампазіцыі. Імя У. Дубоўкі носіць адна з новых вуліц горада.

*У. Шык*

## Медпаслугі даражэюць

Толькі выпускнікам сёлетняга года ў Шаркоўшчынскім раёне не трэба плаціць грошы пры наведванні медустаноў. Астатнім абітурыентам ад 18 год і старэй па рашэнню мясцовых улад за праходжанне медкамісіі трэба плаціць. Плацяць і вадзіцелі, якіх накіроўваюць на медагляды. Платнымі сталі лабараторныя аналізы, абследаванні на УЗІ. Больш за іншых цяпер прыйдзецца плаціць асобам, якія пакутуюць ад алкагольнай залежнасці. Змяшчэнне іх у рэанімацыю альбо вывядзенне са стану запоя патрабуе платы ў адну мінімалку.

*У. Шпакоўскі*




Фота А. Ліціна

### ФАКТ

**«Незадаволеных тэлефонных заявак на пачатак года ў Пастаўскім раёне мелі 1753. Магчымасці нашы абмежаваны і ўсё ж сёлета плануем забяспечыць прырост асноўных тэлефонных апаратаў на мясцовых сетках на 210 штук».**

***Вытрымка з інтэрв'ю з начальнікам Пастаўскага раённага вузла электрасувязі Паўлам Зубко, які даў яго мясцовай райгазеце.***

### КАМЕНТАРЫЙ

## Горка, калі тэлефон недаступная мара

Спачатку давайце падлічым. Летась на пачатку года ў нашым раёне чарга жадаючых атрымаць жаданы нумар тэлефона складалася з 1780 чалавек. Няхітрая арыфметыка паказвае, што за гэты час чарга скарацілася толькі на 27 абанентаў. Менш за ўсё хацелася, каб мае разважанні ўспрынялі як каменьчык у агарод сувязістаў. Работнікаў галіны, дарэчы, адной з перадавых у краіне, можна толькі пахваліць, што ў гарпасёлку Варапаева зманціравалі АТС на 1000 нумароў, тэлефанізавалі вёскі Карпавічы і Ласькія, павялічылі ёмкасць станцый у Камаях і Балаях.

Канечне, дабавілася новых заяў на ўстаноўку тэлефонаў. Для суцяшэння нам паведамілі, што па насычанасці тэлефоннымі нумарамі ў 10664 адзінкі Пастаўскія сувязісты на другім месцы ў вобласці. Беларусь сярод краін СНД па шчыльнасці тэлефанізацыі першая, а ў свеце па гэтаму паказчыку займае дзесьці 100-е месца, роўна пасярэдзіне міжнароднага ўзроўню тэлекамунікацый.

Вось тут усё становіцца зразумелым, толькі шкада, што пры падобным узроўні развіцця і тэмпах будаўніцтва камунікацый, сотні Пастаўскіх сем'яў за сваё жыццё так і не пакарыстаюцца звычайным тэлефонам. Магчымасці айчыннай эканомікі, дарэчы, вельмі сціплыя, не дазваляюць зрабіць тут тэхналагічны прарыў. Таму, напэўна, яшчэ доўга будуць заставацца без сувязі 86 населеных пунктаў раёна, як і кожная трэцяя жывёлагадоўчая ферма, калі тут, не дай Бог, здарыцца пажар ці нейкая іншая бяда, як жыхарам не пазайздросціш.

Пра якасць існуючай тэлефоннай сеткі таксама лепш прамаўчым. Іншым разам з Варшавай сувязь лепшая, чым з бліжэйшай вёскай. Здаецца, што як жывём, такую сувязь і маем. А жывём мы ў большасці сваёй небагата, палова насельніцтва нават па афіцыйных звестках апынулася за рысай беднасці. Сціплыя даходы кліентаў сувязі не дазваляюць галіне глядзець у будучыню з аптымізмам. Незразумела, як пры такім узроўні жыцця, можна паўсю дна развіваць звычайныя ў свеце сродкі сувязі, такія,як электронную пошту, Інтэрнэт, мадэм, факс, валаконна-аптычныя высокахуткасныя лініі перадачы дадзеных.

Да гэтага беларусам яшчэ вельмі і вельмі далёка. Па краіне, дарэчы, колькасць жадаючых мець просты тэлефон складае 450 тысяч чалавек, з якіх толькі ў Мінску застаюцца незадаволенымі 28000 заяў, хоць сюды і накіроўваюцца у першую чаргу грашовыя сродкі, ды і магчымасці сталіцы непараўнальныя. Іншым разам у нас свежую пошту, як і пенсіі, з-за недахопу бензіну не могуць даставіць своечасова. Бедных паштальёнаў у глыбінцы не могуць забяспечыць веласіпедамі. І прыходзіцца людзям за капейкі, пешшу, таптаць дзесяткі кіламетраў да аддаленых вёсак і хутароў.

Невырашальнай праблемай застаецца пакуль і дастаўка газет і часопісаў у паштовыя скрынкі і газетныя кіёскі да пачатку працоўнага дня. У Еўропе, між іншым, гэта даўно стала нормай. У той жа Швецыі, дзе я летась быў на стажыроўцы, мясцовая раённая газета «Бергслагпостэн», каляровая і памерам на 28-32 старонкі, ужо ў пяць гадзін раніцы даставлялася ў дамы гараджан. Падпісчыкам з рэгіёна яна прыходзіла не пазней шасці гадзін раніцы кожнага дня шэсць разоў на тыдзень. У нас толькі спрабуюць стварыць другі беларускі тэлеканал, а ў Скандынаваў іх працуе чатыры.

Каля 60 % шведскіх сем'яў прымаюць да сотні спадарожнікавых каналаў, адзінаццаць з якіх прызначаны спецыяльна для гэтай краіны. Апроч гэтага, практычна ў кожным доме і на кожным працоўным месцы шведы маюць персанальны камп'ютар. Больш паловы шведскіх сем'яў карыстаюцца сеткай Інтэрнэт. І ўжо зусім мяне збянтэжыла інфармацыя аб тым, што каля 58% дарослых жыхароў Швецыі маюць сотавыя тэлефоны. Раслумачылі, што на паўночных рэдказаселеных прасторах лягчэй наладзіць радыётэлефонную сувязь, чым цягнуць правады.

Іншым разам думаеш: куды вырваліся яны, і дзе знаходзімся мы? Як вядома сувязь -- гэта нерв краіны. Пры ўпэўненай рабоце галіны адпаведна ўпэўнена развіваецца і эканоміка дзяржавы. Як ні горка, ні ў плане тэлефанізацыі, ні ў эканамічнай дзейнасці мы ніяк не дацягваемся да міжнароднага ўзроўню.

**Уладзімір Шык,**

## Электрычнасць не скончылася, але кіно не будзе

**Паўпустыя залы кінатэатраў, а то і зусім адмена сеансаў -- горкая прыкмета нашага «цывілізаванага» часу. Пасля доўгага перапынку глядзельная зала Глыбоцкага кінатэатра напоўнілася жадаючымі паглядзець расійскае кіно «Сібірскі цырульнік».**

Затое з 7 па 9 мая, калі бясплатна, тры разы на дзень, дэманстравалі ваенныя фільмы мінулых год, гледачоў амаль не было. Многія зараз аддаюць перавагу тэлевізару, відэа, уласнаму агароду і культпаходы ў кіно іх не цікавяць. Да таго ж, нічога новага, што б зацікавіла гледача, амаль няма. Магчыма, што непатаплявальны ў фінансавым плане «Тытанік» у жніўні збярэ багатую аўдыторыю глыбачан.

*У. Шык*

## Зарплату малаком

**Калгас «Зорка» -- першая гаспадарка ў Браслаўскім раёне, якая звярнулася з іскам у суд аб прызнанні сябе эканамічна неплацёжаздольнай.**

У падобным выпадку заканадаўства прадугледжвае адтэрміноўку выплат усіх пазык да трох год. Банкруцтва, як дамоклаў меч, даўно вісіць ужо над большасцю тутэйшых калгасаў. Пяць гаспадарак шукалі грошы на выплату зарплаты за люты. Дзесяць калгасаў не выплацілі зароблены грошы за сакавік. У нас кажуць: голь на выдумку здатная. Многія гаспадаркі знайшлі выхад з тупіковай сітуацыі: малако ад калгасных кароў на паперах ідзе як здадзенае прыватнікамі і зараз малаказавод павінен разлічвацца з людзьмі.

# Яшчэ раз пра і за беларускі народ



Фота А. Ліціна

## 1. Нас «размыкаюць» як электрычную праводку

У тым, што сёння маем -- і ў эканоміцы, і ў сацыяльна-бытавым, і ў палітычным жыцці -- вінаваціць толькі ўладу неяк. Мы самі, кожны з нас, у многім вінаваты. Не развівалі выяўныя схільнасці, задавальняліся невялікім, не былі патрабавальнымі да сябе і іншых, баяліся выказаць праўду, хаваліся ад яе, пазбягалі праблем і шукалі не напоўненага сэнсам, годнага, а ўсяго толькі лёгкага жыцця. Мы самі згубілі права быць людзьмі і мець разумны ўрад. І ў выніку Мы да цяперашняга НІХТО. Мы, беларусы, не паважаем самі сябе, не патрабуем павагі з боку іншых людзей, з боку дзяржавы. Над кожным з нас паасобку здзекуюцца чыноўнікі, а купка людзей пры ўладзе здзекуецца над цэлай нацыяй. І каб нацыя не магла патрабаваць, а толькі дзячыла за жабрацкае існаванне, нас «размыкаюць» як электрычную праводку і «замыкаюць» кожнага паасобку толькі на асабістых праблемах, ад якіх пацієу вар'яцеем.

Народ, як той сабачка, якога прыручыла дзяржава і ўладна трымае на кароткім павадку: у пояс кланяецца за голую костку. Але ж дзяржава павінна быць у адказе за тых, каго прыручыла.

## 2. Пасады падмяняюць чалавека

Не сцвярджаю, што ўсе чыноўнікі, якія знаходзяцца сёння пры ўладзе, дрэнныя людзі і свядома ствараюць праблемы блізкім сваім. Але калі заходжу ў кабінет да якога-небудзь кіраўніка і заўважаю на сцяне замест здымка сям'і ці іконкі чарговы афіцыйны партрэт, разумею, што размаўляць прыйдзецца не з чалавекам, а з пасадай. І няхай сабе гэты ўладны чыноўнік будзе тысячу разоў незадаволены сённяшнім «надвор'ем» у краіне, ён гэтага не скажа. «Ум, честь и совесть» нацыі ў адной асобе, якая пільна пазірае са сцяны і корміць зарплатай ды прэміямі, скажаць праўду не дазволіць. А ў выніку чалавек бярэ на сябе падвоены грэх: ён хлусіць сабе самому і падтрымлівае тое, што шкодзіць астатняй большасці.

## 3. Права -- гэта старшыня калгаса, дырэктар завода, прадстаўнік «вертыкалі»?

Людзей, якія сёння жывуць сумленна, кіруючыся адзінай мудрай і справядлівай Канстытуцыяй -- дзесяццю Божымі запаведзямі -- гэтак жа няшмат, як і мала тых, хто, абараняючы сваю чалавечую, дадзеную Ўсявышнім пры нараджэнні годнасць, адваёўвае ў дзяржавы права не існаваць, а жыць у роднай краіне.

Для большасці вяскоўцаў панятак «права» ўмяшчае ў сябе не магчымасць быць абароненым з боку дзяржавы і жыць па-чалавечы, не сілу закона, а пэўны лад жыцця, канкрэтную асобу, на якую трэба маліцца і за ўсё дзячыць. Для вяскоўцаў права -- гэта старшыня калгаса, у волі якога, даць людзям сенакос, машыну, пашу ці ўсяго гэтага пазбавіць. Для рабочага ўсё права -- дырэктар завода, для настаўнікаў -- кіраўнік РАА і вышэй галавы не скокнеш, бо «вертыкальны плот» высокі і абгарадзіў ён усю краіну. Беларусы апынуліся, што авечкі ў загоне, разам са сваёй бяспраўнай Канстытуцыяй і судова-прававой сістэмай, якія не даюць ніякіх правоў і гарантый, а толькі ківаюць на нашы абавязкі.

## 4. Дзяржава ў асобе Івана Іванавіча

Апошняй інстанцыяй, куды звяртаецца пакрыўджаны чалавек, ва ўсіх цывілізаваных краінах, здаўна былі і ёсць суды, незалежныя ад мясцовых і вышэйшых улад, якія падпарадкоўваюцца толькі закону. Быў час, у пачатку 90-ых, калі і нашы, беларускія суды абаранялі грамадзян і мелі імідж справядлівых. Сёння сітуацыя такая, што людзі вымушаны шукаць праўды ў прадстаўнікоў «вертыкалі», якая трымае ў кішэні і суды, і пракуратуру, і міліцыю, а таксама, як і ў савецкія часы, у рэдакцыях газет. На яве падмена канстытуцыйных каштоўнасцей. Простага чалавека зноў прывучаюць, што праўды дабіцца дапаможа не закон, а нейкі Іван Іванавіч, якому дадзены неабмежаваныя паўнамоцтвы караць і міляваць. Адно не растлумачваюць недасведчаным грамадзянам, што калі перад судом усе людзі роўныя, то для Івана Іванавіча важна сацыяльнае палажэнне, радня і бліжэйшае атачэнне, фінансавыя магчымасці. Простаму чалавеку дзейсная дапамога з боку дзяржавы не пагражае.

## 5. «Яны прыйшлі за мной і не засталося нікога, хто мог бы сказаць слова ў абарону мяне»

Беларусы вельмі асцярожныя і гатовы цярпець да апошняга, баючыся, што за супраціў будзе яшчэ горш. Крыўдзяць суседа -- маўчаць, пакутуюць блізкія -- маўчаць. «Я ж неяк трымаюся, мяне не чапаюць, -- цешаць сябе думкай. У сувязі з гэтым хацелася б нагадаць словы пастара Марціна Німолера, які стаў ахвярай нацыстаў:

-- Па-першае, яны прыйшлі за яўрэямі, і я маўчаў, так як я не яўрэй. Затым яны прыйшлі за камуністамі, і я маўчаў, так як я не быў камуністам. Затым яны прыйшлі за членамі прафсаюзаў, і я маўчаў, так як я не быў членам прафсаюза. Затым яны прыйшлі за мной, і не засталося нікога, хто мог бы сказаць слова ў абарону мяне...

Ужо сёння за некаторымі прыходзяць. Праўда, пакуль за актывістамі, арганізатарамі, ініцыятарамі, удзельнікамі акцый пратэсту супраць жабрацкага існавання. Але калі мы будзем маўчаць, заўтра прыйдуць за тымі, хто моўчкі спачуваў, у думках падтрымліваў актывістаў, ініцыятараў, арганізатараў, удзельнікаў...

**Галіна СУТУЛА**

## Прадстаўнікі Германії ў Беларусі

**У рамках міжпартыйных сувязяў Віцебшчыну наведала група нямецкіх парламентарыяў, актывістаў кіруючай сацыял-дэмакратычнай партыі.**

Пасля семінару ў сталіцы, 14-15 чэрвеня Пастаўскі раён ужо другі раз аб'ездзіў дзяржсакратар міністэрства юстыцыі федэральнай зямлі Ніжняя Саксонія доктар Райнер Літтэн. Ён пабываў на прыватным прадпрыемстве ў райцэнтры, у сярэдняй школе, на мясцовай мытні. Мэтай паездкі стаў намер абмяняцца вопытам і інфармацыяй. У рамках сустрэчы на Пастаўшчыне адбылося сумеснае пасяджэнне з актывам мясцовай сацыял-дэмакратычнай партыі. Немцы і далей будуць аказваць садзеянне ў справе ўмацавання дэмакратычных інстытутаў і канкрэтна дапамагаць у пераадоленні вынікаў Чарнобыльскай катастрофы.

Рэха падзеі

## Гумовыя боты і фуфайка як славутасць нацыі

Ну вось і дажыліся. Хадзіць сёння ў Беларусі ў норкавых футрах небяспечна. І не з-за таго, што нехта можа зняць яе ў прыцемку, а з-за таго, што гэтае футра стала прыкметай «ворага народа», якому свабоды «зажадалася». Аб гэтым было заяўлена з высокай трыбуны ў час каментарыяў «Марша Свабоды-2». Яно і зразумела: норкавае футра -- не фуфайка, яго ёсць чаго палохацца. Той, хто яго панасіў, ужо ніколі не захоча здымаць і мяняць на ватоўку. Той, хто яго носіць не верыць у рай і шчасце, якое існуе ў рэспубліцы. Як і ва ўсіх нармальных людзей, у гаспадароў норкавых футраў ёсць нармальнае жаданне: жыць заможна ў сваёй краіне. І калі ўсюды гэта не забараняецца, а ўсяляк заахвочваецца, то ў нас -- грэх, аб якім гаворыцца на дзяржаўным узроўні. Свой у доску для ўлад толькі чалавек у гумовых ботах і фуфайцы, свой, бо яго па-ранейшаму можна падманваць, спакушаць мізэрнымі грашовымі падачкамі, «вешаць лапшу на вушы» і за ім панаваць. Гэты свой будзе ўдзячны за тое, што жабрацкую пенсію і зарплату даюць у час і што няма вайны. А калі ты ў норкавым футры, значыць, жулік, спекулянт, а калі яшчэ ўдзельнічаеш і ў «Маршах Свабоды» -- вораг народа: «Честные советские люди на такси в булочную не ездят», -- казала гераіня аднаго фільма. Перафразуючы радкоў'е, атрымаем: «Честные белорусские люди в норковых шубах на Маршы не ходят». Сорамна за краіну, дабрабыт і славутасць якой на мяжы трэцяга тысячагоддзя вызначаецца пражыццёвым мінімумам, ватоўкай і гумовымі ботамі.

**П. Сарычаў**



Фота А. Ліціна

## Папялушкі з сінімі насамі

**Непрыемна бачыць п'янага дарослага, а калі ў нецвярозым стане знаходзіцца дзяўчынка-падлетак, робіцца жахліва.**

Тым не менш з 80 непаўналетніх, якія былі прыцягнуты да адказнасці ў Мёрскім раёне, 6 дзяўчынак. 15-гадовую Лену Л. з вёскі Рунды «прапісочвалі» ужо двойчы. Вынік, аднак, нязначны: як пілі, так і п'юць, часта дарослыя і дзеці ў адной кампаніі. Да слова, па краіне, на ўліку ў міліцыі стаіць 16 тысяч жанчын, 9 тысяч з іх закончаныя алкагалічкі.

*У. Шык*

## Латыголь -- родны сэрцу куточак

**Лёс айца Віктара настаяцеля Храма Аляксандра Неўскага, што размешчаны на Ваенных могілках у Мінску цесна звязаны з Вілейшчынай. Да другой Сусветнай вайны і ў вайну ён служыў у вёсцы Латыголь.**

Айцец Віктар-- спадчынны святар. Жонка Аляксандра Уладзіміраўна таксама з сям'і святароў. Цесць айца Віктара з 1922 па 1938 г. служыў у Латыголі. На могілках у Латыголі пахавана дачушка айца Віктара. Мясцовы каваль Ваня зрабіў агароджу кованую. На могілках у Латыголі сабе месца падрыхтаваў і айцец Віктар. Час ад часу ён наведваецца ў вёску і з прыемнасцю адзначае, што людзі яго тут паважаюць і памятаюць.

*Па матэрыялах «Народнай газеты»*

## Заменім шыльды?

**У калгасах «Запаветы Ільіча» і імя Дзяржынскага Мёрскага раёна, хутка пройдуць агульныя сходы, на якіх будзе ісці размова аб змяненні форм гаспадарання.**

Раней меркавалася, што ў сучасным выглядзе саўгасы і калгасы праіснуюць да 1 ліпеня 2000 года. Зараз ім дазволілі вызначаць свой новы шлях да жніўня, а пратакол-дамову аб сумеснай апрацоўцы зямлі і ўстаноўчыя дакументы для дзяржаўнай рэгістрацыі трэба будзе прадставіць да кастрычніка. Але нават у сельскіх спецыялістаў сёння няма ўяўлення, як будуць жыць унітарныя дзяржаўныя і прыватныя сельгаспрадпрыемствы. Большасць жа сялян упэўнена, што ў выніку ўвесь «сыр-бор», гучная рэарганізацыя, завершыцца зменай шыльды. Людзі з аглядкай згаджаюцца нешта мяняць, баяцца адказнасці, лічаць немэтазгодным выпускаць нейкія акцыі, размяркоўваць паі і жыць па-новаму.

*У. Шык*

Аляксандр Шэлепень, Уладзімір Скрабатун

# Падарожжа па краіне замкаў

**У Навагрудку мы сустрэлі шмат знаёмых. Здавалася, ледзь не палова жыхароў Глыбокага з`ехалася сюды, каб паглядзець тое, чаго дома ні за якія грошы ніколі не ўбачыш. Гэта было грандыёзнае відовішча...**

Вось і настаў той момант, якога ўсе мы так доўга чакалі -- правядзенне ў Навагрудку Фэсту сярэднявечнай культуры **«Навагрудак `2000»**.

23 чэрвеня супрацоўнікі і сябры газеты **«Вольнае Глыбокае»** рушылі ў напрамку першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

Адчуванне нечага незвычайнага і цікавага з`явілася, калі мы ўбачылі за некалькі кіламетраў ад горада вялікі рыцарскі стан, які раскінуўся на берагах возера з прыгожай назвай Літоўка.

24 чэрвеня -- дзень адкрыцця фестывалю. На цэнтральнай плошчы горада была пабудавана сцэна, на якую па чарзе ўзыходзілі рыцарскія клубы з Беларусі, Прыбалтыкі, Польшчы, Расіі. Усяго было прадстаўлена больш за 40 рыцарскіх клубаў. Даспехі, узбраенне і строі рыцараў адпавядалі прадстаўленым краінам Еўропы ў розныя гістарычныя перыяды. Па краях сцэны ў час прадстаўлення стаялі два статныя рыцары ў цяжкіх баявых даспехах, якія калісь насілі конныя вершнікі. Пазней мы даведаліся, што такі даспех важыць 40 кілаграмаў. Пасля прадстаўлення слаўнага рыцарства, удзельнікі і госці свята рушылі на Замкавую гару, дзе пачаліся рыцарскія паядынкі і парныя баі. У адным з клубаў быў нават свой святар і калі ў час паядынку валіўся павержаны мацнейшым праціўнікам рыцар, святы ойча выбягаў на поле бою, станавіўся на калені і «адпяваў» славутага рыцара, які «загінуў» у баі.

Ля падножжа Замкавай гары ў гэты ж час адбываліся спаборніцтвы арбалетчыкаў. Заплаціўшы тысячу рублёў, кожны глядач мог паспрабаваць сваё шчасце: выстраліць з арбалета і трапіць стралой у мішэнь. Пазней пачаўся конны турнір. Але ён не вельмі ўдаўся, бо коні былі не падрыхтаваныя і баяліся вершнікаў у латах і іх дзідаў (коп`яў). А вось паглядзець на бугурт было сапраўды цікава.

Бугурт -- гэта схватка, у якой адначасова зыходзяцца па некалькі дзясяткаў чалавек. Поле брані патанае ў грукаце шчытоў, лязганні мячоў, баявых клічах рыцараў, крыках «параненых» і «паміраючых».

Увечары на цэнтральнай плошчы Навагрудка адбыўся канцэрт, дзе гучала і сучасная музыка і музыка сярэднявечча. Раней неяк не ўяўлялася, што старадаўняя музыка даволі рытмічная і можа завесці ўпляс вялікі натоўп людзей, асабліва моладзь. І вельмі нас усцешыла, як юнакоў і дзяўчат, у рытм музыкі, раз-пораз скандзіравалі: «Жыве Беларусь! Жыве Беларусь!..» А калі на горад спусціліся цемра і запаліліся ліхтары, на плошчу выйшлі рыцарскія харугвы. Пад рыцарскія дэвізы пачалася «сеча» -- ' сценка на сценку'. У свеце начных ліхтароў бой здаваўся сапраўдным. Уражанне такое, што старажытны Навагрудак апынуўся ў XIV стагоддзі. Пасля заканчэння бою ў начным небе прагрымеў салют у гонар доблеснага рыцарства. На гэтым скончыўся першы святочны дзень.

Зразумела, такую колькасць гасцей, прыезджых не толькі з многіх гарадоў Беларусі, але і Еўропы невялікі Навагрудак на начоўку ні ў якім разе не змог бы размясціць у сваіх гасцініцах, інтэрнатах, кватэрах гараджан. Не жартачкі! Было іх, па самых прыблізных падліках, пад 15 тысяч. Як і шмат хто, мы ад`ехалі кіламетраў пяць, заначавалі ў лесе ля вогнішча, смажылі шашлыкі. Лес уразіў разнастайнасцю парод дрэў: граб, клён, ліпа, дуб...

На другі дзень зранку было вырашана наведаць старажытны замак у **Любчы**, што знаходзіцца на паўночным усходзе ад Навагрудка.

Будаўніцтва каменнага замка ў Любчы было пачата Янам Кішкам дзесьці ў 1581 годзе. З XVII стагоддзя Любча належыць Радзівілам.

Замак мы ўбачылі ў вельмі запушчаным стане. Частка замка (крапасныя сцены) разабрана пасля апошняй вайны на цэглу. Захаваліся толькі дзве вежы ды палац, у якім размешчана навучальная ўстанова.

Дарэчы, у Любчанскім замку здымаўся фільм **«Пракляты ўтульны дом»**.

У Навагрудку тым часам ішла падрыхтоўка працягу свята. Нягледзячы на тое, што да позняй ночы горад бессаромна засмечвала навала народу, раніцой ён быў «як з іголкі», памыты, пачышчаны, прыбраны. Зайздросная аператыўнасць мясцовых улад і камунальных служб!

У 14 гадзін на цэнтральнай плошчы горада, зрабіўшы круг пашаны, рыцарскія харугвы накіраваліся да Замкавай гары, дзе павінна была адбыцца асноўная частка свята -- штурм рыцарамі-крыжакамі замкавых умацаванняў. «Ліцвінскае» войска заняло абарону на вяршыні Навагрудскай цвердзі. Унізе шыхтаваліся «тэўтонскія рыцары». Загучалі рыцарскія трубы і перад гледачамі паўсталі падзеі 1314 года, калі вялікае войска Тэўтонскага ордэна на чале з магістрам Генрыхам фон Плоцке асадзіла Навагрудак. Пачаўся штурм... Зноў і зноў накочваецца хваля тэўтонскіх рыцараў на замкавыя ўмацаванні, але абаронцы мужна вытрымліваюць іх націск. Магістр вырашае ісці на штурм адначасова з усіх бакоў. Але ў той час калі пачаўся пад`ём на Замкавую гару, па правым флангу крыжакоў ударылі абаронцы, якія зрабілі вылазку. У шэрагах крыжакоў -- смяценне, яны бягуць... Перамога!!! У гэты момант мора народу, што сабралася на гэтае відовішча, шматкроццю галасоў закрычала: **«Жыве Беларусь!!!»**

Перамогай беларускага (ліцвінскага) войска завяршылася свята ў Навагрудку.

Пасля заканчэння Фестывалю, наша група прадоўжыла вандроўку. Мы накіраваліся на паўднёвы ўсход, у мястэчка **Мір**, дзе знаходзіцца адзін з мацнейшых замкаў Вялікага княства Літоўскага -- Мірскі. Гэты помнік архітэктуры сярэднявечча з`ўляецца здабыткам усяго чалавецтва і знаходзіцца пад эгідай ЮНЕСКА. Ён пабудаваны ў пачатку XVI стагоддзя князем Ільінічам, потым пераходзіў да Радзівілаў, якім належыў больш 300 гадоў. Штораз, пасля ваенных падзей, разбураны, ён узнімаўся з руін і адбудоўваўся з яшчэ большай веліччу.

Апошнімі гаспадарамі Мірскага замка былі праваслаўныя князі Святаполк-Мірскія. У парку, які прылягае да замка, імі была пабудавана прыгожая капліца-пахавальня ў стылі мадэрн. Мясцовыя жыхары сталага ўзросту памятаюць апошняга з князёў, якога напаткаў нешчаслівы лёс. У час акупацыі Заходняй Беларусі войскамі Чырвонай Арміі восенню 1939 г. Святаполк-Мірскі пакінуў радавое гняздо і паехаў у Германію. У перыяд другой Сусветнай вайны ён вярнуўся назад, але трапіў у савецкі палон, дзе і загінуў.

***

Успамінаючы нашу вандроўку ў старажытны Навагрудак, хочам згадаць такую акалічнасць: пад час свята два дні бесперапынна працавалі гандаль, пункты харчавання, абмену валюты. Можна ўявіць якую астранамічную суму прыбытку атрымаў горад. Ці можа Глыбокае арганізаваць нейкі падобны Фэст, каб ён быў не толькі святам для ўсёй Беларусі, але і магчымасцю атрымаць вялікія грошы на добраўпарадкаванне горада, рамонт помнікаў даўніны, на пенсіі і заробкі настаўнікам і медыкам !?

















**На здымках:** 1) Панарама Замкавай гары; 2) Зміцер Курцэвіч з Латыголі прымерыў рыцарскі шлем; 3) Супрацоўнік глыбоцкага музея Алесь Хайноўскі (у шлеме) і гісторык Аляксандр Шелепень слухаюць аповяд рыцара з Масквы аб спосабах вырабу сваіх даспехаў; 4) Парныя баі рыцараў; 5) Перад штурмам; 6) З правага фланга на крыжакоў напалі абаронцы замка; 7-8) У Любчанскім замку; 9) Мірскі замак. Фота Ул. Скрабатуна



## Сэрвач -- балотная рэчка

Рака Сэрвач *(здымак 1)* з`яўляецца натуральнай мяжой Докшыцкага і Глыбоцкага раёнаў. Такую нязвыклую для слыху назву, ёй, па ўсёй верагоднасці, далі прадстаўнікі фіна-угорскіх плямёнаў, якія жылі на яе берагах шмат стагоддзяў таму. На мове народа **комі** сэнс назвы тлумачыцца так -- «пратока, балотная рэчка; вада, колеру разбаўленага дамашняга піва». Назву, падобную гэтай, -- Сэрва -- носіць рака на Поўначы Расіі.

Сваю назву Сэрвач апраўдвае на ўсе сто працэнтаў. Плывеш на лодцы -- рака ёсць. Праз некалькі дзесяткаў метраў ракі ... няма! Тупік! Рэчышча ператварылася ў балота, заросшае трыснягом у вышыню вясковай хаты, рака, як быццам, схавалася, збегла пад зямлю. Цягнеш тады лодку волакам па зыбучай зямлі, якая так і імкнецца сыйсці з-пад ног, а вакол шматлікія «вокны»: аступішся -- трапіш у бездань! Праз сотню метраў, раптам, зноў рэчышча, з`явілася няведама адкуль, але не ў тым месцы, дзе яго шукаеш. Але радавацца рана, праз колькі дзесяткаў метраў рака зноў знікае: рассыпаецца на мноства дробных пратюк, кожную з якіх можна памылкова палічыць за асноўнае рэчышча.

Каму добра тут, сярод неабсяжных трысняговых джунгляў, балот і пратюк дык гэта бабрам і андатрам. Нездарма тут створаны заказнік «Сэрвач».

Сэрвач нясе свае воды ў Вілію...

## Дарога і мост

Пасля апошняй вайны праз мост над ракой Сэрвач яшчэ ішоў даволі бойкі гасцінец. З Докшыц праз глыбоцкія вёскі Латыголь і Заваранты можна было патрапіць на Дунілавічы.

У час Грамадзянскай вайны праз мост, з боку Латыголі, на Кіякова рухалася падраздзяленне чырвонаармейцаў. Палякі на даху кіякоўскай капліцы *(здымак 2)* усталявілі кулямёт і знішчылі каля двух дзесяткаў салдат. У савецкія часы чырвонаармейцы былі перазахаваны ў Сітцах.

Колькі дзесяцігоддзяў таму мост *(здымак 1)* страціў сваю прыдатнасць. Докшыцкія ўлады, каб не траціць грошы на пабудову новага маста, землі былых панскіх маёнткаў Лупачэва і Дабрынава, што знаходзіліся па той бок Сэрвачы, перадалі Глыбоцкаму раёну. Гасцінец ператварыўся ў звычайную сцежку, а праз рэчку, на месцы маста, зрабілі кладку, каб святар з Дзеркаўшчыны мог наведваць Кіякова Докшыцкага раёна.

## Стадыён у сельскай глыбінцы

Летась да святкавання 480-ай гадавіны «нараджэння» вёскі Лужкі, што ў Шаркоўшчынскім раёне, мясцовы саўгас «Гарадзец» не паспеў дабудаваць стадыён. Новыя трыбуны з`явіліся тут напярэдадні раённага свята песні і працы.

Упершыню ў гісторыі раёна такі прадстаўнічы фэст ладзіўся не ў горадзе, а ў старажытным мястэчку. На спартыўнай арэне прайшоў футбольны матч. Шматлікім гледачам добрага настрою паддаў сталічны тэатр сатыры і гумару «Хрыстафор». Больш 80-ці лепшых механізатараў і жывёлаводаў за добрасумленную працу атрымалі на свяце падзякі і грашовыя прэміі.

*У. Шык*

## «Хвароба» веку

Калі 20 год таму назад маладая настаўніца Галіна Далядутка стала працаваць у дзіцячым пакоі міліцыі Глыбоцкага раёна, за год тут здаралася ўсяго 10-15 выпадкаў дзіцячага п`янства. Сёння маёр міліцыі Г. Далядутка, якая ўзначальвае інспекцыю па справах непаўналетніх, адзначае, што падобная з`ява ў дзіцячым асяродку ўзрасла разоў у дзесяць.

Сапраўдная бяда -- 65 сямей у раёне стаяць на ўліку у інспекцыі. У «лоне» гэтых сямей співаюцца 75 падлеткаў. Большасць з іх рана ці позна апынецца ў зале суда і замарудзіць, папярэдзіць гэты працэс, на жаль, не ўдаецца нікому. Сапраўдным мучэннем для Галіны Аркадзьеўны, маці двух дзяцей, робяцца штомесячныя пасяджэнні камісіі па справах непаўналетніх, праз якую праходзяць, часам, да трох дзесяткаў «цяжкіх» падлеткаў.

Уладзімір СКРАБАТУН

Вандроўкі «Вольнага Глыбокага»

# «НЯМА ТАГО, ШТО РАНЬШ БЫЛО...»

**Менавіта гэтыя словы, вынесеныя ў загаловак з верша Максіма Багдановіча «Вераніка», адольваюць свядомасць пасля наведвання вёскі Кіякова Докшыцкага раёна. Гэта край запусцення і абыякавасці. Музейны экспанат, які трэба паказваць усяму свету, вазіць сюды экскурсіі і паказваць як не трэба гаспадарыць і да чаго можа прывесці вера ў «светлую будучыню».**

**Пройдзе няшмат часу і на Докшыцкіх, Глыбоцкіх, Пастаўскіх... абшарах даламаюць, дабураць, раскрадуць на цэглу, прап`юць, апошнія рэліквіі нашага краю. Нашчадкам не застанецца нават і падмуркаў, зарослых чарнобылем і чартапалохам...**







## Богдан Кіякоўскі

Часта населены пункт атрымлівае свой назоў ад прозвішча свайго заснавальніка, першага пасяленца або ўладальніка. Вёска Кіякова Докшыцкага раёна -- не выключэнне, яно належыла роду Кіякоўскіх. Жыхары памятаюць апошняга ўладальніка маёнтка Богдана Кіякова.

Кажуць, што пан быў неблагі. Як добра працавалі, так і добра плаціў. Плаціў за якасць. Работнікам даваў па 7 пудоў хлеба ў месяц. Меў свой млын. Свае сяляне малолі бясплатна.

Быў двойчы жанаты. -- Першую жонку так кахаў,-- казала сталая жыхарка Кіякова, колішняя работніца пана,-- што шэсць гадоў не дакранаўся нават да грудзей сваёй жонкі. Аднак, шчасце было нядоўгім. Пан Богдан аўдавеў. Узяў другую жонку, з Ілава. У верасні 1939 года бальшавікі ганялі пана голымі нагамі па ржышчы. Загінуў ён недзе ў сталінскім ГУЛагу.

Каля 8 гадоў таму назад ў Кіякова прыязджаў з Польшчы ўнук былога ўладальніка маёнтка і знайшоў яго ў жахлівым стане.

## Маёнтак. Парк. Гаспадарчыя пабудовы

Маёнтак Кіякоўскіх размяшчаўся на беразе ракі Сэрвач, якая агінала парк *(здымак 3)* з паўднёвага боку. У разлеглым парку прагглядаюцца алеі з векавымі дрэвамі. Звычайныя для нашых старадаўніх паркаў дрэвы: ліпа, клён, ясень, дуб, яліны, лістоўніцы... Нельга сказаць, што ён адносіцца да слынных помнікаў садова-паркавага мастацтва. Ён не патрапіў нават у фундаментальныя выданні. Даследчыкі абышлі яго бокам. Напэўна, забыліся, не даехалі...Але, ці заслугоўвае ён гэтага?

Палац Кіякоўскіх знішчаны партызанамі ў апошнюю вайну. Падмурак яго зарос пустазеллем. У парку засталося некалькі гаспадарчых пабудоў. Ёсць пуня *(здымак 5)*, стайні, якія выкарыстоўваюцца мясцовым саўгасам. Стаіць у руінах будынак сталовай, побач -- панская лядоўня. У ёй летам захоўвалі мяса. Лёд узімку нарыхтоўвалі на рацэ Сэрвач. У лядоўні яго засыпалі апілкамі, якія не давалі яму таяць улетку.Стваралася спрыяльная для захоўвання мясных і малочных прадуктаў тэмпература. Не бяда, што ў старадаўнасці не было звыклых нам халадзільнікаў. І тады людзі знаходзілі выйсце. Лядоўня -- цікавае ў мастацкім і тэхнічным выкананні збудаванне. Змуравана яно з цясаных камянёў. Элементы дэкору выкананы з чырвонай цэглы. Адчуваецца ўплыў стылю мадэрн. У падземнай частцы -- перабойкі, камеры для лёду, дрэнажныя сцёкі. Але, што тут казаць, усё што можна адламаць, адруціць, адкалупаць -- скрадзена, разабрана... Засталася толькі пачвара-руіна.

## Дарога ў нікуды...

Сумна і балюча глядзець на запушчаны парк, на руіны пабудоў, на усю гэтую абыякавасць да нашай гісторыі і культуры

Крыўдна за наш народ, за нашых кіраўнікоў раёнаў, сельсаветаў і калгасаў. Усё робіцца так, як быццам нашу зямлю акупіравала незлічоная армія варвараў, а можа дакладней -- акупанты жывуць на сваёй зямлі, а думаюць, што заваявалі чужую краіну, якую ўзялі на разрабаванне...

Такая краіна ніколі не стане багатай. Аксіёма. Прыклад таму -- Еўропа, якая жыве заможна на фоне сваёй шануемай культуры і гісторыі. Наш шлях вядзе ў нікуды...



## Працей купіць чым будаваць

У наш час набыць уласнае жыллё для многіх маладых сямей праблема і далёкая мара. І ўсё ж бывае ў некаторых «свята на роднай вуліцы». За два апошнія гады ўжо пяцёра работнікаў Круляўшчызненскай нафтабазы Докшыцкага раёна адчулі радасць наваселля. Праўда, ключы ім уручылі не ад новых, а купленых у ранейшых уладальнікаў кватэр. Па меры неабходнасці прадпрыемства дапамагло навасёлам з рамонтам.

Аналагічным шляхам вырашае жыллёвую праблему і калгас «Докшыцкі», які набыў для трох сямей пустуючыя хаты. Кожны такі стары новы дом каштуе глыбінцы ад 200 да 1000 долараў. За такія грошы хату не пабудуеш. І ўсё ж 32 чаргавікі Круляўшчызненскага чыгуначнага вузла да цяперашняга маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў

*У. Шык*

## Поспехі жыхароў Мёршчыны

Не перастае здзіўляць сваіх землякоў юная салістка эстраднай студыі Мёрскага раённага Дома культуры Марына Філіпава. Спачатку яна запомнілася тэлегледачам як прызёрка папулярнага рэспубліканскага тэлефестывалю беларускай песні «Усе мы родам з дзяцінства». Паспяховым стала і апошняе выступленне Марыны ў Магілёве ў фінале маладзёжнага эстраднага фестывалю «Зорная ростань». Яна заваявала ў конкурсе трэцяе месца і стала лаўрэатам, што адкрывае перад ёй перспектывы выхаду на вялікую сцэну. Паспяховым для мёрцаў стала і выступленне іх народнага тэатра на абласным фестывалі «Тэатральная вясна -- 2000». За паказаны спектакль-камедыю «Безыменная зорка» калектыў атрымаў Дыплом за ўдалы дэбют.



Уладзімір Шык,
*Паставы*

**Пасля знікнення на карце свету СССР, склалася так, што наша суседка, незалежная Літоўская Рэспубліка, развіваецца і будуе сваё жыццё ў процілеглым ад Беларусі напрамку. Два суседнія гістарычна-блізкія народы аддзяліліся адзін ад аднаго межамі, візавымі рэжымамі, а адносіны паміж суседнімі краінамі штораз робяцца халаднейшымі. Сёння мы слаба ўяўляем, што адбываецца ў Літве. Між тым у краіне пераважае прыватная ўласнасць і зроблена шмат дэмакратычных пераўтварэнняў. Наш карэспандэнт нядаўна пабываў у Літве і ў серыі дарожных замалёвак прапануе чытачам, без замоўчвання хібаў і прыхарошвання сітуацыі, пазнаёміцца з жыццём, надзеямі і праблемамі колішніх суседзяў па Саюзу.**

По той бок мяжы

# Ад Маскоўскіх каманд да Еўрапейскіх стандартаў

## 1. Тут кожны мур -- гісторыі сведка

За савецкім часам дабрацца да Вільнюса (панашаму Вільні) было зусім проста. Але яшчэ да выбрання Лукашэнкі перастаў хадзіць цягнік Віцебск -- Вільнюс. Зараз пэўную складанасць уяўляе набыццё візы, за якой трэба звяртацца ў літоўскае пасольства або плаціць фірме пасрэдніку. Але калі гэтыя праблемы пераадолены, шэсць дзён у тыдзень, за выключэннем панядзелка, за два мільёны «старых» рублёў да літоўскай сталіцы з Пастаў можна даехаць на старэнькім аўтобусе за пяць гадзін. Наш транспарт яшчэ нагадвае суседзям аб нядаўнім супольным мінулым савецкім, бо ў іх саміх такіх машынрэліквій амаль не засталося.

Група з 18 беларускіх журналістаў, у асноўным прадстаўнікоў недзяржаўнага і рэгіянальнага друку, выязджала з Мінска за мяжу арганізавана. Пакуль ехаў туды і любаваўся прыгожымі краявідамі, не раз думаў аб складанасцях і згрызотах нашага жыцця. Бог даў беларусам многае, але пазбавіў розуму абраць разумнае годнае начальства. Літоўцы, дарэчы, вельмі незадаволены сваім урадам кансерватараў, які прыйшоў да ўлады ў 1996 годзе. Па меркаванні большасці маіх субяседнікаў, апошнія месяцы дажывае Сейм Літвы на чале з В. Ландсбергісам. У кастрычніку тут пройдуць парламенцкія выбары і да ўлады ў краіне прыйдуць новыя маладыя ліберальныя сілы. Толькі рэйтынг прэзідэнта Валдаса Адамкуса неверагодна высокі. Ён карыстаецца падтрымкай 86% насельніцтва, але ў адрозненне ад нашага прэзідэнта мае зусім невялікія паўнамоцтвы.

Перад адʼездам было некалькі гадзін, каб вольна пахадзіць па гістарычнай беларускай сталіцы. Надворʼе дазволіла пагуляць па шырокіх і чыстых вуліцах Вільні. Сталічныя цэны, праўда, уразілі сваёй дарагавізнай. Самы танны кошт буханкі хлеба там каля 200 нашых «новых» рублёў. Падаражэлі прыбіральні: за наведанне туалета трэба выкласці 50 рублёў. Нават у прэстыжным гастраноме на цэнтральным праспекце асартымент каўбасных вырабаў не налічваў 8 гатункаў. Для параўнання, у невялічкім літоўскім і, што неверагодна, яшчэ дзяржаўным магазіне ў райцэнтры Тракай, каўбас ляжала болей і па цане яны былі таннейшыя за нашы. Быў моцна ўражаны, налічыўшы ў віленскай хлебнай краме запакаваных ў плёнку хлебабулачных вырабаў розных канфігурацый і памераў ажно 28 гатункаў? Кошт аднаго кілаграма чорнага смачнага хлеба ў межах 1,5 літа. У пераводзе на нашы грошы гэта будзе дзесьці 360 рублёў. Толькі не забывайцеся, што курс долара стабільна трымаецца ў іх на ўзроўні ад 1 да 4 літаў ужо 8 гадоў, цэны стабільныя, не «раcтуць», як у нас. Настаўнікі і медыкі там атрымоўваюць за сваю працу ад 200 да 250 "вечназялёных" долараў.

Каб не наяўнасць на вуліцах патрыманых іншамарак ды Чырвонага касцёла, Мінск заставаўся б савецкім горадам з шырокімі паўпустымі вуліцамі, дзе снуюць людзі з заклапочанымі тварамі. Сёння да гэтага дабавіліся міліцыянты на кожным кроку, папрашайкі каля падземных пераходаў і прадаўцы газет. Такое ўражанне, што ў нас вельмі марудна ідзе час, а ў паветры лунае напружанне, выкліканае працяглым крызісам і падзеннем узроўню жыцця. Літва за апошнія 10 гадоў рашуча развіталася з савецкім мінулым і ў многім ужо нагадвае сучасную еўрапейскую краіну. Праўда, узровень жыцця і тут значна адстае нават ад узроўню бяднейшых на кантыненце Партугаліі і Грэцыі. Каб іх дагнаць, літоўцам спатрэбіцца гадоў 15--20. Але адрозненні паміж Літвой і Беларуссю ўжо не на нашу карысць былі бачны нават у вагоне цягніка.

Ён і па жоўтаму колеру непадобны на беларускі прататып. У салоне мяккія адкідныя крэслы, тэрмометр, меладычная музыка. Знайшлося ў літоўскім цягніку туалетнае мыла, папера, ручнікі, чаго днём з агнём у нас не знойдзеш. Па ўзроўню агульнай культуры суседзі намнога апярэджваюць беларусаў. У Вільню мы прыехалі хутка, без усялякіх перашкод на мяжы. Літоўская сталіца, у якой раней прыходзілася бываць неаднаразова, адразу уразіла морам святла. Горад выдатна асветлены. Відаць, электраэнергіі ў летувісаў хапае. Дамы і старажытныя храмы, помнікі прыгожа глядзяцца глыбокай ноччу, дзякуючы спецыяльна зробленаму падсвечванню.

Усюды шмат каляровай рэкламы. У цемры, на высотных будынках, свецяцца назвы сусветнавядомых фірмаў. Нягледзячы на позні час, свайго тралейбуса №5 мы чакалі толькі некалькі хвілін. Наогул, праца грамадскага транспарту арганізавана ў Літве выдатна. Інтэрвал руху строга вытрымліваецца і складае 6--15 хвілін, у залежнасці ад часу дня. Усе прыпынкі, як прынята ў Еўропе, шкляныя асветленыя, з трох бакоў абараняюць пасажыраў ад дажджу і ветру. Муніцыпальнае прадпрыемства «Паслугі руху», як і іх калегі з «Вільняус тралейбусас» яшчэ вучацца працаваць у складаных рынкавых умовах. Як і ў нас, у іх, праблемы пачынаюцца з тарыфаў на перавозкі.

З ліпеня 1996 года яны не адпавядалі затратам на перавозкі пасажыраў. Улічваючы недахоп сродкаў, тут плануюць падняць плату за праезд, а ў выніку ўнясення зменаў у закон аб ільготах, практычна не засталося асоб, якія будуць дарма ездзіць за кошт грамадства. Неўзабаве за аднаразовы праезд давядзецца плаціць да 80 цэнтаў і да 1 літа за білет, набыты ў кіроўцы аўтобуса ці тралейбуса. Падаражэюць да 35 літаў і месячныя праязныя білеты. Аднак, тут паспелі замяніць зношаны парк савецкіх машын на чэшскія аўтобусы і тралейбусы «Шкода», рыхтуюцца перайсці да зімовага і летняга раскладу руху грамадскага транспарту. Здадзены ў друк спецыяльныя кніжкі з раскладам руху па ўсяму гораду, праўда, пакуль не вырашана раздаваць іх людзям бясплатна ці прадаваць.

Літоўская сталіца ў многіх месцах нагадвае вялізную будаўнічую пляцоўку. Многія старажытныя будынкі абцягнуты каляровай сеткай, нешта адначляецца, прыхарошваецца, замяняецца сучаснай начынкай. Нават у прыгожым парку Вінгіс вядуцца работы: сякуць кусты, раўняюць зямлю. Тут зноў будуць могілкі загінуўшых у гады першай і другой Сусветных войнаў. Там, дзе раней бальшавікі ўстанавілі атракцыёны, сёння, з удзелам немцаў, да восені наступнага года, будуць аднаўлены надмагільныя помнікі, крыжы, стэлы, пракладзены дарожкі, засеяны газоны. Старыя вялізныя сосны вырашана не чапаць. Вільня ўражвае прыезджага беларуса морам кветак каля кожнага жылога дома, на балконах і проста на вуліцах.



**На невялічкай плошчы, адзін перад адным, паўстаюць 26 велічных каталіцкіх, праваслаўных, пратэстанцкіх, іудзейскіх храмаў і манастыроў. На гэту прыгажосць цяпер зʼязджаюцца паглядзець з усяго свету.**



**Дзяўчынкі-літовачкі ў нацыянальных касцюмах хвалююцца перад пачаткам канцэрта. А ўсмешкі на іх прыгожых тварах -- сведчанне адчування сапраўднага свята, якое пачынаецца не з загадаў чыноўнікаў, а ў людскіх сэрцах.**

Ну а па гістарычнай частцы ў цэнтры горада можна без стомы блукаць цэлымі суткамі. У Вільні ледзь не кожны камень дыхае нашай гісторыяй. Перахоплівае дыханне, калі бачыш мур, на які кінуў свой апошні позірк Каліноўскі, дзе спыняўся Францішак Скарына, дзе размяшчалася рэдакцыя «Нашай Нівы». А каля Вострай брамы, шэдэўра старажытнага дойлідства - касцёла св. Ганны -- сама сабой замірае душа. На невялічкай плошчы, адзін перад адным, паўстаюць 26 велічных каталіцкіх, праваслаўных, пратэстанцкіх, іудзейскіх храмаў і манастыроў. На гэту прыгажосць цяпер зʼязджаюцца паглядзець з усяго свету. І чытаюць шматлікія госці літоўскай сталіцы надпісы на мемарыяльных дошках з прозвішчамі нашых выдатных беларусаў, якія пакінулі свой след у гісторыі краіны. На свае вочы давялося пабачыць пажылых турыстаў з Японіі і Англіі. Вельмі ахвотна прыязджаюць сюды на экскурсіі і адпачынак і суседзі-палякі. Толькі за першыя чатыры месяцы года Літву наведала больш мільёна замежных грамадзян. Не будзь сучаснай інфраструктуры, пераборлівы і прызвычаены да камфорту заходні турыст сюды б не паехаў. Зрабіў я для сябе і яшчэ адно прыемнае адкрыццё. Усюды да беларусаў цяпер, у адрозненні ад савецкіх часоў, адносяцца ветліва, шчыра, прыветліва, абслугоўваюць душэўна, з усмешкай. У адваротным выпадку скарга начальніку і імгненна зляціш з працы. А за сваю работу людзі цяпер вельмі трымаюцца.

Не толькі знешне, але і ўнутрана Літва і яе грамадзяне моцна змяніліся. Ужо сёння -- гэта маленькая еўрапейская дзяржава, капіталістычная краіна, якая перажывае пэўныя эканамічныя цяжкасці і, веру, здолее іх перажыць. Веру таму, што перамены тут бачны літаральна ва ўсіх сферах жыцця.

*/Працяг будзе/*



С. ТАБОЛА, в. Заазерцы Шаркоўшчынскага раёна.

# ХТО ЎРАТУЕ ВОЗЕРА?

**Карцэя -- другое па велічыні возера ў Шаркоўшчынскім раёне, плошча яго -- 45 гектараў. Яшчэ да вайны ад возера быў пракапаны меліярацыйны канал. Узровень вады знізіўся аж на паўметра. На пачатку 70-х гадоў возера зусім абмялела. Адзінае, што сілкуе яго, -- падземныя крыніцы.**

Я жыву каля возера ўжо 25 год. Бачу як па вясне гіне ад замораў рыба: шчупак, плотка, акунь. Толькі лінь і карась вытрымліваюць такое выпрабаванне.

У 1998 годзе было вырашана перакрыць канал, пакласці трубу, каб рэгуляваць узровень вады. Аднак разлікаў ніякіх не зрабілі, трубу паклалі "на вока". Гэта яшчэ больш пагоршыла стан возера Карцэя. Восенню 1998-га вада выйшла з берагоў. А зімой прыйшло распараджэнне: выразаць затоплены лес. За 25 год мы не ссеклі ніводнага дрэва каля возера, збіралі, падцярэблівалі галлё і лес стаў падобны на парк. Страшна, балюча было глядзець на паваленыя прыгажуні-бярозы, асіны, рабіны, алешыны. Высякалася ўсё нават там, куды вада не дайшла. У той час я ляжала ў бальніцы. Калі вярнулася, адразу ж звярнулася ў інспекцыю па ахове прыроды. Але запозна...

Вясной 1999 года адбылася сапраўдная трагедыя: 10 гектараў леса былі поўнасцю затоплены вадой.

Вакол возера ўтварылася балота. У лесе не стала многіх птушак. Знік філін. Жыў ён тут многа гадоў на сасне, кожны год у гняздзе выpасталі 3-4 птушаняты. Прыгожая, цікавая і карысная птушка (харчуецца пераважна грызунамі). Сасну спілавалі - і філіна не стала. Апусцелі гнёзды-рукавіцы рэмезаў, якія ў недаступных месцах звісалі з дрэваў над возерам. Не гнездаваліся сёлета жаўранак лясны (або юла), конікі лясныя, сівакі (плiскі ў народзе). Паменела сіпавак, якія любілі скакаць па агародах і вышукваць насякомых. Зніклі арэхаўкі. Яны вельмі любілі дубы, што растуць у нашай невялікай вёсачцы і нават пасеялі маладыя дубкі ў лесе. Арэхаўкі кормяцца насеннем елкі, арэхаў, дуба, чым садзейнічаюць распаўсюджванню гэтых дрэў. Нябачна стала ні валавокі (крапіўніца ў народзе), ні завірушак, ні мухалавак; не варкуюць ужо лясныя галубы, не чуваць нават драздоў-рабіннікаў, якія раней жылі ў нашым лесе ў шматлікай колькасці. Па маіх назіраннях, каля возера жыло 26 відаў птушак. Засталося 11. Вадаплаваючыя (чомга, чапля шэрая, чыркі, нырцы) засталіся. Жыве і пара лебедзяў. Але ці застануцца яны тут, калі балота пачне наступаць на возера? А гэта абавязкова адбудзецца, як толькі лес каля возера загіне канчаткова. Поўнасцю страчаны шматлікія ягаднікі. Раней было вельмі многа ляснай маліны, яе збіралі гаспадыні з усіх навакольных вёсак, нават з Шаркоўшчыны прыязджалі. Няма бруснічніка, ажыны, п'янічніка, чарнічніка. Не стала і грыбоў. А затопленыя лугі! Колькі прыгожых і стаўшых ужо рэдкімі траў і кветак не расцвілі летась: гладыёлус дзікі, іван-чай, цэлыя зараснікі валяр'яны і аеру, маруна мяккая, падвей шыракалісты, сівец лугавы, сіняк звычайны.

За возерам была затоплена і нара лісіцы, нашай шматгадовай суседкі. Не прыходзяць больш на вадапой прыгажуны-ласі. А іх часта можна было ўбачыць рана на зорцы каля возера -- паважныя, ганарліва-высакародныя, нап`юцца і павольна скіроўваюцца ў пушчу. На возеры яшчэ засталіся жыць бабры, андатры і выдры. А вось краты перасяліліся з лугоў... на нашы гароды, не жыць жа ім у балоце.

Возера заўсёды было месцам адпачынку і мясцовай дзятвы, і шаркаўчан. Прыязджалі сем'ямі. Шчодрым было яно для рыбаловаў і паляўнічых. Восенню на возера прылятаюць вялікія чароды гусей. А ў пачатку лета ў паход на Карцэю адпраўляліся дзеці з розных школ.

Усе гэтыя страты можна было прадухіліць, каб спецыялісты зрабілі разлікі і перакапалі тую трубу, апусцілі яе ніжэй, каб лішкі вады пайшлі ў меліярацыйныя каналы і калодзежы.

Прырода не даруе такіх памылак.

# Легенда пра цыган

Даўным-даўно, зараз ніхто ўжо не ведае калі і дзе гэта было, жыло племя прыгожых, працавітых і добрых людзей.Сваю Радзіму яны называлі Сонечнай далінай каля вялікай вады. Гэта месца было райскім вугалком на зямлі, бо шчодрай была зямля даліны, багатая лясамі на берагах паўнаводнай, чыстай ракі, якая ўпадала ў вялікую ваду мора.

Жыхары Сонечнай даліны славіліся сваім майстэрствам. Не было такой справы, якую б яны не ўмелі рабіць. Толькі аднаго не ўмелі -- рабіць зброю, бо не ведалі, што такое вайна. З суседзямі вякамі жылі ў дружбе. І заўсёды, і працуючы, і адпачываючы яны спявалі і гралі на гітарах і скрыпках. Дыгралі так, што ў лясах змаўкалі птушкі. А калі спявалі, ніхто не мог паўтарыць тых песень -- такімі чароўнымі і прыгожымі яны былі, непадражальнымі былі і галасы насельнікаў Сонечнай даліны. Ну а калі танцавалі,то ўсё жывое навокал кідалася ў скокі, такімі захапляючымі і непаўторнымі былі іх пляскі. Багаты талент быў дадзены жыхарам Сонечнай даліны за іх дабрыню і працавітасць.

Але аднойчы бяда прыйшла да гэтых людзей -- бяда ў выглядзе чорных караблёў і страшэнных валасатых людзей, якія прыплылі да берагоўСонечнай даліны невядома адкуль. Жорсткія, бязлітасныя захопнікі пачалі знішчаць жыхароў даліны. І не ўмелі абараніць сябе добрыя прыгожыя людзі, бо не мелі зброі і не ўмелі ваяваць. І калі засталося іх зусім мала, цёмнай ноччу пакінулі яны сваю Радзіму. Але далі клятву, што вернуцца сюды зноў. З тае пары прайшлі стагоддзі.

Змянілася шмат пакаленняў, а нашчадкі таго племені, якіх людзі называюць цыганамі, усё шукаюць і шукаюць сваю Радзіму ды толькі ніяк не могуць знайсці, не могуць яе пазнаць. Ці то знішчылі чужынцы тую даліну, ці яшчэ што?

Ад тых далёкіх часоў зберaглі цыганы свае песні і пляскі, толькі галасы іх сталі тужлівапакутнымі нават калі яны спяваюць вясёлыя песні. І як многа вякоў назад заміраюць усе, хто чуе песні цыган, пераліўна-самотныя іх галасы. Слу-хаеш іх і, здаецца, бачыш рознакаляровыя кветкі, раскіданыя на белым снезе. Надрыўнымі галасамі плачуць і зараз у руках цыган гітары і скрыпкі. Па гэтых песнях і пазнаюць людзі шукальнікаў сваёй страчанай Сонечнай даліны.

*Сафія Табола*




Фота А. Ліціна

# Глыбачане паедуць на Ўсебеларускі З`езд за незалежнасць

**Пяць дэлегатаў ад Глыбоччыны будзе браць удзел ва Ўсебеларускім З`ездзе за незалежнасць, які адбудзецца ў Мінску 29 ліпеня бягучага года. Чатыры дэлегаты вылучаны метадам збору подпісаў : на аднаго дэлегата -- 100 подпісаў ад 10 тысяч выбаршчыкаў (у Глыбоцкім раёне іх налічваецца -- 36,5 тысяч). Пяты дэлегат вылучаны агульным сходам грамадскай арганізацыі.**

**На З`ездзе будзе прыняты Акт незалежнасці Беларусі, які мы змяшчаем ніжэй:**

**Мы**, дэлегаты Ўсебеларускага З'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь,

-- усведамляючы адказнасць за будучыню Беларусі;

-- напамінаючы, што Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;

-- грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права

**ЗАЯЎЛЯЕМ:**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты - свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці павінны праследавацца як найвялікшае злачынства.

Ідэі Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце былі замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года легітымна абраным парламентам. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і бяз'ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і нашчадкаў. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны праз рашэнні вышэйшых асобаў і органаў і нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь пастаўлена пад пагрозу. Рэальнай небяспекай ёй стаў дагавор аб стварэнні саюзнай дзяржавы з Расеяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі ўладаў, чыя легітымнасць ставіцца пад сумненне ў большасці краін свету. Не бывае двух суверэнітэтаў у адной дзяржаве.

Мы -- за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расеяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам ніякай дзяржавы. Суверэнітэт не можа перадавацца іншай дзяржаве ці новаствoранаму дзяржаўнаму ўтварэнню.

Незалежнасць -- гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна.

Мы, дэлегаты Ўсебеларускага З'езда

**СВЕДЧЫМ**

Богам дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву;

**АБВЯШЧАЕМ**

дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

**ПРЫЗНАЁМ**

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

**ЗАКЛІКАЕМ**

міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных дзяржаў, сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Заклікаем суайчыннікаў згуртавацца вакол ідэй **АКТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ.**

**Жыве Беларусь!**

## Канфлікт у Беларускім Хельсінскім камітэце

Група вядомых беларускіх дзеячаў, што ўваходзяць у склад Назіральнага Савета БХК, у тым ліку Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Юрый Хадыка, Анатоль Грыцкевіч, Уладзімір Арлоў, Жанна Літвіна, Карлас Шэрман, падпісалі сумесную заяву, у якой крытыкуюць дзейнасць старшыні БХК Тацяны Процькі і патрабуюць яе адстаўкі. Старшыню БХК абвінавачваюць ва ўцягванні праваабарончай арганізацыі ў палітычную дзейнасць.Сябры Назіральнага Савета БХК незадаволены ўдзелам Тацяны Процькі ў так званым дыялогу, арганізаваным уладамі.Не прымаюць яны і ідэю ўвядзення назіральнікаў ад Беларускага Хельсінскага камітэта ў склад выбарчых камісій рознага ўзроўню.

Супраць старшыні БХК актыўна выступае народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, ён нават пагражаў выхадам са складу БХК.

Тацяна Процька напісала заяву аб выхадзе ў адстаўку, але потым яе адклікала. Пытанне аб яе адстаўцы будзе вырашана 16 верасня, калі будзе склікаюны агульны сход сябраў БХК, і Т.Процька паставіць пытанне аб даверу ёй як старшыні камітэту.

# ЦЫТАТА АПОШНЯЙ ПАЛАСЫ

**Беларусь -- страна парадоксов. Край бесчисленных озёр и полноводных рек ежегодно страдает от засухи, а необозримые леса не спасают от зимней стужи. Всё, вроде, как у соседей: земля, небо и дожди. А вот поди ж ты, шлют они нам бульбу,** (которой у нас очередной год нет), **да яблоки круглый год, сочные, сладкие,** (такие, как ставшие нашими национальными фруктами бананы и апельсины).

*Михаил Гинтовт, газета «ТРУД», № 123 (23596), 6 июля 2000 г.*

## Святыня адновіць сваю прыгажосць




Будынкам былога касцёла і кляштара айцоў-кармелітаў у Глыбокім захапляўся сам Напалеон, які пражыў у гарадку ў 1812 годзе сем дзён. У нашы дні ад празмернай вільгаці паўднёва-усходняя сцяна сабора Раства Багародзіцы пачала разбурацца. Каб выратаваць будынак ад гібелі, прыйшлося знесці гаражы,вывезці шмат насыпной зямлі. На месцы былой аўтастаянкі ля царквы работнікі дзяржпрадпрыемства будаўнічых і меліярацыйных работ неўзабаве разаб'юць газоны і кветнікі. Намечаны неабходныя работы ўнутры Сабора з мэтай вярнуць святыні ранейшую прыгажосць забудовы ў стылі «віленскага барока». Частку сродкаў на рамонт выдаткаваў Віцебскі аблвыканкам.

Адзінае, чаго шкада: разам з вывезенай ад сцен Сабора зямлёй, вывезлася частка нязведанай гісторыі. Па незразумелых прычынах на месца работ не былі запрошаны археолагі і спецыялісты, якія займаюцца навуковай рэстаўрацыяй старажытных помнікаў архітэктуры.



Фота А. Ліціна

## Навінкі з кніжнай паліцы




Gregorz Rakowski,
**«WSRÓD JEZIOR I MSZARÓW WILEŃSZCZYZNY».**
Oficyna wydawnicza «Rewasz». Warszawa 2000.

У бягучым годзе ў адным з Варшаўскіх выдавецтваў пабачыла свет кніга Гжэгажа Ранкоўскага **«Сярод азёраў і імшараў Віленшчыны»** (Grzegorz Rankowski, «Wsród jezior i mszarów Wileńszczyzny». Rewasz. Warszawa. 2000. 386 S.), якая адкрывае новую выдавецкую серыю «Смак крэсаў».

У апошнія гады ў Польшчы выходзіць даволі шмат літаратуры «крэсавай тэматыкі» -- пераважна мемуары, кнігі прысвечаныя гістарычным падзеям. Кніга Г.Ранкоўскага з'яўляецца турыстычным даведнікам, у якім удала спалучаюцца ўражанні аўтара ад земляў, на якіх ён упершыню пабываў з гістарычна-краязнаўчымі экскурсамі, напісанымі паводле друкаваных крыніц. Г. Ранкоўскі пачаў свае падарожжы ў 1990 годзе і за некалькі прыездаў абышоў з калегамі найбольш прывабныя куточкі былой Віленшчыны. У кнігу ўключаны матэрыялы аб Браславе і знакамітай Браслаўскай азёрнай сістэме, наваколлях Опсы, Відзаў, Дрысвятаў, Іказні, Мёраў, Шаркоўшчыны, Глыбокага, Пастаў, аб Нарачы, Блакітных Сарачанскіх азёрах. Ёсць у кнізе і замалёўка пра Зулава -- радзіму Ю.Пілсудскага. Гэта тэрыторыя знаходзіцца зараз на тэрыторыі Літвы ў Свянцянскім раёне (сучасны Залавас). Зразумела, кніга разлічана на польскага чытача. Але яна будзе цікавай і чытачу ў Беларусі -- нехта знойдзе ў ёй невядомыя раней эпізоды і факты рэгіянальнай гісторыі, нехта вачыма аўтара здолее зірнуць на свой край і яго славутасці нібыта звонку.

Прываблівае замілаванне аўтара да крэсаў, якое адчуваецца з першых старонак. Прыгажосць, гістарычную і культурную адметнасць нашага краю Ранкоўскі адкрыў для сябе па публікацыях -- па картах. А потым адкрываў ужо другі раз, наталяючы свае вочы цудоўнымі краявідамі. І як можна меркаваць па кнізе, вандроўкі па краі азёр і балот не расчаравалі аўтара.

Выклікае павагу і ў цэлым добразычлівы тон аповяду Ранкоўскага пра свае вандроўкі, сустрэчы з мясцовымі жыхарамі. Аўтар спецыяльна падкрэслівае гасціннасць, добразычлівасць тых людзей, з якімі ён сутыкнуўся падчас падарожжа і заклікае не верыць паведамленням у некаторых СМІ пра варожае стаўленне беларусаў да гасцей з Польшчы. Гэта вельмі важна -- рэжымы прыходзяць і адыходзяць, змяняюцца палітычныя арыенціры, а народы-суседзі выйграюць толькі тады, калі жывуць у згодзе, шукаючы паразумення ў розных абставінах. Віленшчына была ў складзе Польшчы, а зараз знаходзіцца ў складзе незалежных Беларусі і Літвы. Для многіх палякаў, асабліва старэйшага пакалення, гэта балючае пытанне. Г.Ранкоўскі адносіцца да яго даволі ўзважана, тактоўна, хаця не з усімі высновамі аўтара, якія датычацца этнічных працэсаў на землях Віленшчыны можна пагадзіцца. Асабіста я з найбольшай цікавасцю пазнаёміўся з тымі раздзеламі кнігі, якія прысвечаны Браслаўшчыне. Яны займаюць больш за трэць ёмістага томіка. Гэта невыпадкова, па кніжцы бачна асаблівае замілаванне аўтара краем блакітных азёр, які ён назваў «крэсамі крэсаў». З задавальненнем прачытаў падарожныя нататкі. І гістарычныя адступленні сведчаць аб нядрэнным веданні друкаваных крыніц, прычым, не толькі польскіх, але і беларускіх. Выданне нядрэнна ілюстравана, асабліва да месца карты мясцін і населеных пунктаў.

Пры падрыхтоўцы такога рода выданняў вельмі цяжка пазбегнуць недакладнасцей, часта памылак. Ёсць яны і ў кнізе Г.Ранкоўскага, але яны не псуюць у цэлым добрага ўражання аб выданні.

І на заканчэнні гэтага маленькага водгука хацелася б прывесці словы аўтара, з якімі цяжка не пагадзіцца. «Нявярта прыязджаць на Крэсы на некалькі дзён, каб хутка тут прабегчыся і вярнуцца. Найлепей адведаць гэты край пешшу, з пляцаком і намётам... Трэба мець час на тое, каб пацягацца па шляхах і сцяжынках глыбінкі, прайсціся па вулачках забытых мястэчак, аглядзець ацалелыя помнікі і рэшткі тых, якія не захаваліся, наведаць старыя паркі пры былых маёнтках і старыя могілкі, спаткацца і паразмаўляць з мясцовым і людзьмі. Крэсы трэба пазнаваць няспешна, трэба іх смакаваць».

*Кастусь Шыдлоўскі, г.Браслаў*



## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

**Шукаю сяброў, аднадумцаў, якія цікавяцца экалогіяй, прыродай і гісторыяй роднага краю для правядзення сумесных экспедыцый і даледванняў Глыбоччыны і ўсяго паўночнага захаду Беларусі.**

**Пісаць на адрас: Зміцер Лупач, в. Завараты, 211821, п/а Дзеркаўшчына, Глыбоцкі раён.**

***

**Прадам або абмяняю коней на аўтамашыну «Жыгулі»**
**Пісаць на адрас: Феакціст Фядотаў, в. Дубнякі, Вароніцкі сельсавет, Полацкі раён, або тэлефанаваць у Наваполацк па нумары 8-(244) 2 85 18 з 20[00] да 21[00].**

***

**Будую хаты, гаражы, хлявы, падмуркі, платы з каменя**
**Тэл.: 2 37 54 (у Глыбокім)**

***

**Тэрмінова прадаецца легкавы дызельны аўтамабіль Mitsubishi -- Colt 1986 г. выпуска. Пяціступеньчатая КПП, аб'ём рухавіка 1,8. Звяртацца па тэлефоне 2 12 74 (у Глыбокім).**

***

**Жадаючыя атрымаць новую кнігу славутага Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой дакладны адрас і 2200 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленка, п/с 268, 220131, Мінск-131. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Мінску кнігу можна набыць ў сядзібе Таварыства беларускай мовы: Мінск, вул. Румянцава, 13.**



*З павагай Алесь Сабаленка*

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**У рэдакцыі газеты «Витебский курьер» будзе працаваць «прамая лінія».**

Кожны аўторак з 17-00 да 18-00 на тэлефоне **37 76 82** Вы зможаце звярнуцца да прадстаўніка Беларускага Хельсінскага камітэта з інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў. Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць кансультацыю.

**На праблемах парушэння правоў чалавека Вы зможаце звяртацца і па тэлефонах 2 37 54 ў Глыбокім, 2 14 28 у Браславе, 2 31 11 у вёсцы Заазерцы Шаркоўшчынскага раёна, 2 27 58 у Паставах.**



**Набывайце «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!**


«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб'ём -- 2 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 15 ліпеня 2000 года ў 13-30.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 121

Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў

Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 4280